У нумары: Палітычныя працэсы ў Зах. Беларусі | На народнай глебе | Літаратурная старонка

# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 40 (449) | ГОД IX | 4 КАСТРЫЧНІКА | ЦАНА 60 ГР.



Асцярожна, унучанька, бо яма глыбокая.

# ТРАТУАРАМ ПРАЗ ВЕСКУ НУРЭЦ

Васіль Аляксеюк з вёскі Нурэц, што недалёка за Боцькамі ў Бельскім павеце, спакойна чакаў прадвесня. Проста 1-га сакавіка адкрыў аграмадную бетонную яму. Кіслым, цёплым пахам павеяла па цэлай вёсцы. Прыйшлі суседзі пагля-дзець, як Васіль дастае гэтую сваю кішонку. Восенню другія гаспадары бацвінне выкідалі проста на сметнік, а Васіль Аляксеюк загадаў сваім «бабам» дакладна чысціць буракі і бацвінне старанна складаць на кучу. Буракоў Аляксеюк кантрактуе штогод каля 1-го гектара. Калі да таго далажыць зялёнае бульбянішча з паўтара гектара, атрымаецца сапраўды вялікая горба корму.

— Гной з гэтага будзе, не корм, — прапаведвалі заўзятыя паклоннікі старыны.

Васіль да 1-га жніўня карміў гэтай сваёй кішонкай тры кароўкі, а жонка Марыся яшчэ свіням яе падкідала і абое па ціху смяяліся. Было чаго. Іх рахунак у малачарні зімой і летам штомесяц павялічваўся найменш на 1000 злотых.

У Нурцу жыве 58 гаспадароў. На кожнага гаспадара ў сярэднім прыпадае па 9 гектараў зямлі. Няма тут бедных і няма таксама вельмі багатых. Сеюць найбольш жыта, але многа на іх палях таксама азімай пшаніцы і цукровых буракоў, шмат кантрактуюць ільну. Невядома толькі, чаму яны не цікавяцца ячменем. Аж смешна гаварыць. Усе пасевы займалі там у бягучым годзе плошчу ўзвыш 300 га. Сярод гэтай плошчы на ячмень была прызначана ўсяго ледзь 90 сотых. (0,90 га). Відавочна не любяць жыхары Нурца ячменнай кашы. Але любяць яе тысячы жыхароў у гарадах. Можна ж нядрэнна зарабіць. Ячмень будзе расці заўсёды па бульбе. А на бульбу ў Нурцы адводзяць штогод многа за 60 га. Яна ўдаецца ім на славу. Сярэдні ўраджай — 200 цэнтнераў з аднаго гектара.

Закладаць сіласы сяляне ў Нурцы навучыліся ад Васіля Аляксеюка. Ад каго тады навучацца яны сеяць ячмень?

Справа на столькі цікавая, што розуму наогул вучыць іх не трэба. Вось Іван Якімюк (гэты Уладзіміраў сын) прыдумаў касіць трэці пакос сенажацяў у год. Нідзе ніколі ў нас на Беласточчыне гэтага не бывала. Не ўсе сяляне косяць нават атаву. Проста пасля першага пакосу пускаюць на сенажаць каровы і справа закончана. Красулі не толькі з'ядзяць траву, але перамесяць усё, як цеста.

Позняй восенню цяжка высушыць сена. Якімюк знайшоў выхад. Ён проста пераняў думку аднавяскоўца Васіля Аляксеюка і творча прымяніў яе на практыцы. Цяпер амаль

(Працяг на стар. 5)



На абодвух баках бруку ў Нурцы ўжо праложаны тратуары.



— Нуль сем, слухаю.

# ВЫКЛІКАЮ МІЛІЦЫЮ

На Звежынецкай шашы два разбітыя грузавікі. Абодва шафёры працуюць у адным прадпрыемстве. Шафёр самазвала Андрэй Тарасевіч так п'яны, што ледзь языком варочае. Балбоча штосьці пра жонку і дзеці. Сапраўды бедныя яны. Бацька па сваёй лёгкадумнасці патраціць шафёрскія правы. Добра, што абышлося без ахвяр у людзях. Пакуль п'янага шафёра ўладзяць у выцверазілаўцы, я заглядаю да дыжурнага афіцэра.

— Што з гэтай трывогай?

— Ужо адклікана, — паясняе паручнік.

Аказваецца, што некаторыя міліцэйскія камісарыяты былі пастаўлены ў поўную баявую гатоўнасць. Не, асабліва важнай прычыны не было. Міліцыянер аднак — незалежна ад таго, ці ён на службе, ці дома — не можа забыць, што ён менавіта з'яўляецца міліцыянерам.

Перад гадзінай 20.00 з'яўляецца на камендатуру армовец Тадэуш Радзішэўскі, працаўнік Тэкстыльнай фабрыкі імя Сержана ў Беластоку. Прыбыў на службу. Будзе сачыць за парадкам да другой гадзіны ночы. Так 4—5 разоў у месяц. Ужо трэці год.

Гадзіна 20.20. «Газік» трасецца і скача па глу-

(Працяг на стар. 4)

Пра міліцыю розныя людзі мяркуюць па-рознаму. Які тады будзённы дзень у міліцыянера?

Вось гарадская камендатура ў Беластоку.

У суботу, 19-га верасня дыжурным афіцэрам зранку быў падпаручнік Эдвард Мярка. У міліцыі служыць ужо 20-ты год. Юбілей — дваццацігоддзе грамадзянскай міліцыі — з'яўляецца і яго асабістым юбілеем.

Гутарку спыняе востры тэлефонны званок.

— Нуль сем, слухаю, — адзываецца падпаручнік і запісвае ў кніжцы паведамленне.

І вось імчыцца міліцэйскі «газік». Гадзіна 16.35. За рулём сяржант Мікалай Кавалеўскі, а побач яго капраль Вітальд Вэндалоўскі. На месцы здарэння аказваецца, што інтэрвенцыя міліцыі зусім непатрэбна.

Зноў ажывае радыёстанцыя:

— «Ікс-25»! «Ікс-25»! Тут «Ікс-25 16»! Тут «Ікс-25 16». Выклікаю цябе. Накіруйцеся: вуліца Юравецкая 31, кватэра 6. Нейкая сямейная бойка.

Жанчына чакае перад домам.

— Лавіце яго, — галосіць праз слёзы. — Забраў дзіцё і ўцёк. З братам сваім піць пайшоў. Усе грошы прапівае, а мяне і дзяцей галодных пакідае.

Міліцыянеру, бы Саламону, прыходзіцца і судзіць, і зводзіць людзей.

Афармілі справу. 20 мінут спакою і радыё зноў выклікае:

— «Ікс-25»! «Ікс-25»!...

Я. Баркуноў: УСПАМІНЫ ПАРТЫЗАНА.

Ул. Паўлючук: ЯК ЖЫВУЦЬ БАГАТЫЯ.

С. Яновіч: ГУРТОК І ГУРТОЧКІ.

БЯССТРАШНЫ (Аб славутым савецкім разведчыку Рыхардзе Зорге).



